*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)
№ 38 (198)
21 верасня 1994 г.
Кошт — 15 рублёў

## ПОСТУП ТЫДНЯ

О У МАСКВЕ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА КІРАЎНІКОЎ УРАДАЎ КРАІН СНД. Беларускую дэлегацыю ўзначальваў Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір. У друку з'явілася гутарка з ім. На пытанне карэспандэнта Белінфарм, ці не пагражаюць падпісаныя ў Маскве дакументы суверэнітэту нашай дзяржавы, прэм'ер-міністр адказаў: «Так, не пагражаюць, паколькі ўсе дакументы захоўваюць самастойнасць і незалежнасць кожнай дзяржавы». Пра аб'яднанне грашовых сістэм Беларусі і Расіі М.Чыгір паведаміў: «На гэты раз пытанне аб'яднання грашовых сістэм з расійскага боку не агаворвалася. Але з парадку дня пытанне не знята. Яно будзе абмяркоўвацца, але, на маю думку, само па сабе аб'яднанне грашовых сістэм не можа даць адчувальных вынікаў, таму што стан грашовага абарачэння ў нас значна горшы і больш складаны, чым у Расіі. І аб'яднанне можа адбыцца толькі тады, калі нашы грашовыя сістэмы будуць на адной ступені развіцця, а ўзроўні інфляцыі будуць ідэнтычнымі. Таму сёння гаварыць аб аб'яднанні, напэўна, рана. У будучым мы, відаць, да гэтага пытання вернемся...» У інфармацыйнай праграме беларускага тэлебачання «Панарама» прагучала, што ў час сустрэчы кіраўнікоў урадаў краін СНД прэм'ер-міністр Расіі Віктар Чарнамырдзін сказаў, што ніякага аб'яднання грашовых сістэм паміж Расіяй і Беларуссю не будзе.

*О У ДРУКУ З'ЯВІЛІСЯ ВЫСНОВЫ ДЗЯРЖАЎНАЙ КАМІСІІ ПА ЎДАКЛАДНЕННЮ ПРАВАПІСУ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРНАЙ МОВЫ, у якіх прапануецца працягваць у рэспубліцы навукова-метадычную працу па ўдакладненню і ўдасканаленню правапісу беларускай літаратурнай мовы, а таксама па яе граматычнай і лексічнай нармалізацыі і стабілізацыі... Акадэміі навук Беларусі і Міністэрству адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь да канца 1995 года даручана падрыхтаваць да выдання новую рэдакцыю «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі», дзе былі б улічаны вынікі работы Дзяржаўнай камісіі. Да прыняцця новай рэдакцыі «Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» рэкамендуецца строга прытрымлівацца старых правілаў.*

О **МІНІСТЭРСТВАМ ЮСТЫЦЫІ БЕЛАРУСІ ЗАРЭГІСТРАВАНЫ** Беларускі свабодны прафсаюз педагогаў. Старшынёй Савета БСПП абраны Аляксандр Гайко.

*О АТРЫМАНА БЛАГАСЛАВЕННЕ НА СТВАРЭННЕ КРЫЖА ПА ЎЗОРУ УЗВІЖАЛЬНАГА КРЫЖА ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ.*

О **АНСАМБЛЮ «ПЕСНЯРЫ» СПОЎНІЛАСЯ 25 ГАДОЎ!** Кіраўнік ансамбля Уладзімір Мулявін – рускі, але, нягледзячы на гэта, ён намнога больш зрабіў за некаторых беларусаў для прэстыжу нашай краіны ў свеце. Віншуем калектыў з юбілеем, жадаем і далей творчага плёну на ніве беларускай эстрады.

Я рускі, але я патрыёт Беларускай дзяржавы. Стар. 2

Беларускае згуртаванне вайскоўцаў — рух патрыятычны. Стар. 3

Падчаркі нашай культуры. Стар. 6

### ПАДЗЕІ І ДАТЫ

## ВЕРАСЕНЬ 1939-ГА: БЕЛАРУСКАЯ ПЛАТА

***Аб'яднанне беларускага народа ў межах адной дзяржавы. Як мусім мы сёння трактаваць гэты акт, які адбыўся 55 год таму? Свой погляд на падзеі таго часу ў гутарцы з карэспандэнтам «Нашага слова» У.Панадам выказаў гісторык Анатоль Сідарэвіч.***

**— 17 верасня штогод Беларусь адзначае падзею, што адбылася ў 1939 годзе, — з'яднанне Заходняй Беларусі з БССР. Але амаль не згадваюцца падзеі, што прывялі да раз'яднання нашага народа і іх прычыны...**

— З чаго ўсё пачалося? На мой погляд, з Версальскай сістэмы. Яна, у рэшце рэшт, і спарадзіла Другую сусветную вайну, пачаткам якой стаў падзел Польшчы ў верасні 1939 года паміж Нямеччынай і СССР. Усё пачалося тады, калі Нямеччына, пераможаная ў Першай сусветнай вайне, страціла свае калоніі, Эльзас і Латарынгію і была, нарэшце, вымушана плаціць кантрыбуцыю. Прыніжэнне гэтай краіны і нацыянальнага гонару яе народа мусіла адгукнуцца — і адгукнулася.

Але гэта адбылося пазней. А да таго быў Рыжскі дагавор 1921 года — вынік несправядлівага для Беларусі Версальскага пакта. Менавіта ўзброеная краінамі Антанты Польшча здолела паспяхова змагацца супраць Савецкай Расіі, захапіць частку Беларусі і Украіны.

Наш край падзяліў Рыжскі трактат, санкцыю на падпісанне якога даў лідэр бальшавікоў Ленін — рэаліст да цынізму. Мір з Польшчай быў на той час адзіным для яго ратункам. Мір быў адзіным ратункам і для яго дзяржавы, якая была спустошана дзвюма войнамі — імперыялістычнай і грамадзянскай — і дарэшты вычарпала свае чалавечыя і матэрыяльныя рэсурсы. Таму адзінай магчымасцю для Леніна захаваць тое, што засталося ад Расійскай імперыі, было падпісанне ганебнага для яго міру — не менш ганебнага, чым Берасцейскі. Ленін захаваў сваю дзяржаву, ахвяраваўшы часткай яе тэрыторыі і даўшы нацыянальным рэгіёнам нейкае самакіраванне. Так паўстала БССР.

Што адбылося пазней, у 30-я гады? Савецкім Саюзам кіраваў Сталін. Камуністычныя лозунгі ранейшага часу былі пакінуты масам, а першага чалавека краіны цікавілі рэчы больш канкрэтныя: геапалітычнае становішча СССР ды захаванне ўлады, а не міфічныя ідэі сусветнай рэвалюцыі. Ідэалогія савецкага камунізму памерла. Нараджалася ідэалогія савецкай імперыі. Паглядзіце, як лоўка ўзяў Сталін на кручок Літву! Ён аддаў Літоўскай рэспубліцы беларускую Вільню, але забраў усю Літву. З пункту гледжання савецкага імперыялізму было ўсё роўна, каму будзе належаць Вільня — Беларусі ці Літве: галоўнае, яна апынулася ў складзе СССР. Савецкі Саюз пачаў экспансію на Захад. І тады ж, у 30-х гадах, войскі гітлераўскай Нямеччыны рушылі на Усход. Сталін захапіў Балтыю. Гітлер — Чэхію і Польшчу.

**— Але ж да вайны заставалася шмат часу. Беларускі народ жыў у межах дзвюх дзяржаў — СССР і Польшчы. І да апошняга часу савецкія гістарыёграфы сцвярджалі, што адзінай марай беларусаў было яднанне з БССР. А што ў сапраўднасці адбывалася па абодва бакі савецка-польскай мяжы?**

— Калі параўноўваць беларускія газеты і часопісы, што выдаваліся ў 30-х гадах па абодва бакі савецка-польскай мяжы, мы ўбачым прынцыповую розніцу ў іх змесце. У Заходняй Беларусі на той час панаваў плюралізм думак, немагчымы ў БССР. І наіўна было б меркаваць, што ўвесь заходнебеларускі народ з надзеяй глядзеў на ўсход. Аб тым, што там рабілася, дзеячы беларускага руху ў Польшчы ведалі выдатна. У асабістым архіве Антона Луцкевіча ёсць шмат лістоў ад людзей, якія пабывалі ў БССР або ўцяклі адтуль, бо ж уцякалі не толькі з Польшчы ў БССР! І недарма ж Луцкевіч актыўна крытыкаваў сталінскую аграрную і нацыянальную палітыку! І, думаю, ні сацыял-дэмакраты — Самойла, Луцкевіч, Уласаў, і ні правыя — ксёндз Станкевіч, ксёндз Гадлеўскі ды іншыя — не пазіралі з надзеяй у бок БССР. Так, камуністы вялі прапаганду, і частку насельніцтва яны здолелі падмануць. Але ж, акрамя палітычнага, існаваў проста беларускі культурніцкі рух. І калі малады Янка Брыль ставіў у Заходняй Беларусі спектаклі паводле Гарэцкага ды іншых аўтараў, ужо забароненых ва Усходняй, дык, я думаю, ён ніякім чынам не прапагандаваў камуністычныя ідэі. Таму сцвярджэнні асобных гісторыкаў аб тым, што беларускае насельніцтва «крэсаў» з надзеяй глядзела на ўсход, з'яўляюцца няпраўдай. Ведаю на прыкладзе ўласнай сям'і: мой дзядзька, які ў свой час быў звязаны з камуністамі, пабываўшы ў БССР і паглядзеўшы на калгасны лад, больш ніякіх спраў з бальшавікамі не меў.

**— Але ж знайшліся заходнебеларускія дзеячы, якія прызналі БССР і паехалі туды, каб супрацоўнічаць з Савецкай уладай...**

— Наколькі я ведаю, тым дзеячам беларускага руху, якія з Польшчы пераехалі ў БССР, не далі надоўга затрымацца ў Менску і ўвогуле ў БССР. Іх хутка перавялі далей на ўсход, а ў 1933 годзе іх пачалі фізічна знішчаць. Успомніце справу «Беларускага нацыянальнага цэнтра» 1933 года! А скончылася ўсё пагромам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, які адбыўся ў 1938 годзе. Сталін, здзяйсняючы сваю палітыку экспансіі на захад, разумеў, чым была для яго нават КПЗБ. У ёй была маскоўская крэатура, але ж былі і выхаванцы Віленскай, Навагрудскай і Радашковіцкай гімназій — людзі, якія вучыліся паводле падручнікаў Іваноўскага, Некрашэвіча, Гарэцкага, Смоліча...

**— Дык ці можна казаць, што БССР была дзяржавай беларускага народа, а не проста рэгіёнам СССР?**

— Па-першае, БССР ніколі не была дзяржавай беларусаў, ці, дакладней, толькі беларусаў. Заўсёды прызнавалася яе шматэтнічнасць. А па-другое, якая гэта магла быць дзяржава беларусаў, калі кіруючай партыяй у ёй была тая, у якой беларусы складалі меншасць нават у другой палове 20-х гадоў? І, нарэшце, гэтая партыя была складовай часткай ВКП(б) з яе ледзь не вайсковай дысцыплінай. Да таго ж нацыянальная палітыка савецкага кіраўніцтва з канца 20-х гадоў была больш жорсткая, чым нацыянальная палітыка Расійскай імперыі ў апошнія гады яе існавання. Царызм кінуў сяго-таго з беларускіх дзеячаў у вязніцы, а бальшавікі — расстрэльвалі.

**— Але ці было больш дэмакратычным стаўленне да беларусаў урада Польшчы?**

— Найперш трэба патлумачыць, ці была дэмакратычнай сама тагачасная Рэч Паспалітая. Думаю, казаць, што міжваенная Польшча была дэмакратычнай дзяржавай — азначае казаць няпраўду. Польшча не была дэмакратычнай нават з моманту свайго афармлення — у 1922 годзе. Першы прэзідэнт — Габрыэль Нарутовіч — быў забіты польскімі шавіністамі. Пазней Польшчай — на паперы дэмакратычнай, а на справе аўтарытарнай дзяржавай — кіраваў Пілсудскі, а пасля яго — Рыдз-Сміглы. Прэзідэнт быў для іх толькі прыкрыццём. І адметнасцю тагачасных польскіх урадаў быў крайні нацыянальны эгаізм. Я вывучаў працы сур'ёзных польскіх даследчыкаў — Ежы Тамашэўскага і іншых — тых, якія займаюцца вывучэннем нацыянальнага пытання ў міжваеннай Рэчы Паспалітай. Яны сведчаць: у 1921 годзе Польшча адкусіла на Усходзе кавалак, які праглынуць не змагла. І, нягледзячы на заявы асобных польскіх дзеячаў аб тым, што праз 50 гадоў на гэтай зямлі немагчыма будзе знайсці ніводнага беларуса, так не адбылося. Так жа, як палякам не ўдалося паланізаваць гэты край пасля уніі 1569 года, не здолелі яны гэта зрабіць і з тэрыторыямі, атрыманымі пасля падпісання Рыжскага трактата. Бо трацiну насельніцтва Польшчы склалі нацыянальныя меншасці — беларусы, украінцы, літоўцы, яўрэі, немцы, не кажучы ўжо пра кашубаў ці лэмкаў.

Дарэчы, яшчэ ў 1916 годзе Луцкевіч у лісце да імперскага канцлера Нямеччыны ясна сфармуляваў: ідэя беларуска-польскага адзінства не мае падтрымкі ў беларускіх масах, і віною таму — нацыянальны і сацыяльны эгаізм палякаў і апалячаных памешчыкаў. Людзі помнілі аб прыгнёце, які доўга панаваў над імі. Гэта — генетычная памяць.

Заганная палітыка працягвалася і на «крэсах всходніх» — палітыка зневажання

*(Працяг на с.4.)*

## З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

* * *

*Намеснік прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Віктар Ганчар прыняў дэлегацыю Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) з Беластока ў складзе ганаровага старшыні прафесара А.Баршчэўскага, старшыні галоўнай управы Я.Сычэўскага, сакратара В.Ласкевіча. Віцэ-прэм'ер у сваім выступленні падкрэсліў, што стасункі новага ўрада з беларусамі суседняй дзяржавы, як і з усёй дыяспарай увогуле, будуць будавацца ў першую чаргу на грунце дэпалітызацыі, дэмакратычнага стаўлення і прагматызму.*

*Кіраўнікі БГКТ пазнаёмілі В.Ганчара з грамадскай і культурнай дзейнасцю таварыства. Расказалі аб праблемах, якія ўзніклі пры завяршэнні будаўніцтва Беларускага музея ў г.Гайнаўцы, а таксама было закранута кола пытанняў, што тычыцца студэнтаў-беларусаў з Беласточчыны, якія вучацца ў нашай краіне па лініі грамадскіх арганізацый.*

*Госці запрасілі прэм'ер-міністра на вераснёўскія ўрачыстасці, прысвечаныя 50-годдзю беларускага ліцэя ў Бельску-Падляскім, і перадалі такое ж запрашэнне Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь.*

* * *

*Летам 1994 года ў прыёмныя камісіі вышэйшых навучальных устаноў падалі заявы 38 900 чалавек (з іх 8565 — медалісты пасля школы, 1540 — скончылі СПТВ і ПТВ з дыпломамі з адзнакай). Пасля экзаменаў прыняты на вучобу 22 500 чалавек (з іх 6000 — школьныя выдатнікі, 900 — былыя навучэнцы СПТВ і ПТВ з дыпломам з адзнакай). За дзяржаўны кошт будуць вучыцца 20860 першакурснікаў, за кошт прадпрыемстваў — 500, за асабістыя грошы — 1140. На адно месца прэтэндавалі больш за 3 чалавекі ў Віцебскім і Гомельскім медыцынскіх інстытутах, Беларускай акадэміі мастацтваў і Беларускім універсітэце культуры. Больш за 2,5 заявы на месца было пададзена ў Менскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, Беларускім дзяржаўным эканамічным універсітэце і Менскім медыцынскім інстытуце. На спецыяльнасці «Культуралогія», «Народная творчасць» і «Беларуская мова і літаратура» і «Правазнаўства» быў конкурс 4 чалавекі на адно месца.*




# Я РУСКІ, АЛЕ Я ПАТРЫЁТ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ

Шаноўныя беларускія патрыёты! Хачу з вамі падзяліцца некаторымі меркаваннямі пра тэму, якая апошнім часам неяк знікла са старонак перыядычных выданняў, – пра Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. З вуснаў многіх адданых беларускаму адраджэнню дзеячаў не раз гучала думка аб тым, што гэты закон дасканалы і ні ў якім разе нельга дапусціць яго перагляду. Я з гэтым не магу пагадзіцца. Некаторыя артыкулы Закона аб мовах не толькі недасканалыя, але і небяспечныя для самога існавання беларускай мовы.

Нарэшце перагляду гэтага Закона. Так, пакуль мы маем «Верховный Совет» з яго большасцю, пераглядаць моўнае заканадаўства небяспечна, бо гэта пойдзе не на карысць беларускай справе. Але, як толькі ў нас будзе сапраўды Беларускі, дэмакратычны парламент, мы павінны будзем прыняць такі закон, які забяспечыць трывалае прыярытэтнае развіццё роднай беларускай мовы і паставіць у роўнае становішча мовы нацыянальных меншасцей.

Цяпер я хачу больш падрабязна абгрунтаваць сваю нязгоду з некаторымі артыкуламі Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Ужо ў артыкуле 2 абвяшчаецца: «Рэспубліканскія і мясцовыя дзяржаўныя, партыйныя органы, прадпрыемствы, установы і грамадскія арганізацыі ствараюць грамадзянам РБ неабходныя ўмовы для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі». Чаму побач з дзяржаўнай ідзе менавіта руская мова? У нашай дзяржаве, акрамя рускіх, жывуць яшчэ і палякі, латышы, украінцы і інш. Атрымліваецца, што іх «абдзялілі». А навошта Беларуская дзяржава будзе забяспечваць, каб усе яе грамадзяне дасканала авалодалі мовай суседняй дзяржавы? Адкуль такая ўдзячнасць? Нам што, Расія за гэта плаціць?

У артыкуле 3 пазначана: «Адказ (установы на запыт грамадзяніна – П.К.) грамадзяніну даецца на беларускай мове або, па яго жаданню, у перакладзе на рускую мову». Гэта значыць, што па жаданню якога-небудзь «сокола» з СС «Белая Русь» можна прымусіць дзяржаўную ўстанову займацца перакладам?! І зноў, чаму менавіта на рускую мову? Можа нехта захоча пачуць пераклад на іншыя мовы.

Ужо адна назва артыкула 4 гаворыць сама за сябе: «Абавязак службовых асоб, іншых работнікаў дзяржаўных, партыйных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый валодаць беларускай і рускай мовамі». Тут складваецца ўражанне, нібыта Беларусь – калонія, дзе чыноўнікі – яе кіраўнічы апарат – атрымалі заданне, акрамя ведання мовы цэнтра, засвоіць яшчэ і «местное наречие».

Артыкул 8 дэкларуе: «Мовай справаводства і дакументацыі на прадпрыемствах з'яўляецца беларуская мова, а пры неабходнасці – руская». Гэта ўжо дае падмацаваную законам магчымасць не пусціць родную мову на прадпрыемства, да рабочых: загартаваны камунізмам і беларусафобіяй чыноўнік заўсёды знойдзе якую-небудзь «неабходнасць», каб захаваць усё па-ранейшаму. А, між тым, рабочыя – самы шматлікі пласт нашага насельніцтва. Не авалодаюць яны мовай – не загаворыць па-беларуску дзяржава.

А вось што абяцае артыкул 22: «РБ гарантуе кожнаму жыхару рэспублікі неад'емнае права на выхаванне і атрыманне адукацыі на беларускай або рускай мове». Гэтая «гарантыя» можа прывесці да далейшага выцяснення беларускай мовы з навучальных устаноў на законнай падставе. Дадайце сюды нізкую нацыянальную свядомасць беларусаў плюс дзейнасць камунафашыстаў.

Артыкул 24 мне ўвогуле падаецца незразумелым: «Ва ўсіх агульнаадукацыйных школах РБ вывучэнне беларускай і рускай моў з'яўляецца абавязковым». Незразумела, чаму нехта павінен вырашаць, што рабіць школьнікам 8 і больш гадзін на тыдзень, можа нехта пажадае проста адпачыць, а не «абавязкова вывучаць рускую мову».

Нейкаму «інтэрнацыяналісту» магчыма падасца, што аўтар гэтых радкоў не любіць рускую мову і рускі народ. Нічога падобнага! Я сам – рускі, захапляюся класікамі рускай літаратуры і пра нейкую нелюбоў да рускай мовы і народа з майго боку не можа ісці і гутаркі.

Проста, як патрыёт сваёй Радзімы-Беларусі я неабыякавы да развіцця беларускай мовы, якая мне стала роднай, таму не магу пагадзіцца цалкам з Законам аб мовах у існуючым выглядзе і лічу што ён:

– не садзейнічае стабільнаму развіццю беларускай мовы, бо нават робіць цяжкім яе доступ да асобных катэгорый насельніцтва (арт. 8, 10, 30);

– не садзейнічае рэалізацыі дэмакратычнага прынцыпу роўных умоў для развіцця культур нацменшасцей, бо надае прывілеяваны статус адной з іх (арт. 10, 19, 22, 24, 26, 30 і інш.);

– ускладняе працэс адукацыі (арт. 22, 24);

– садзейнічае бюракратычнаму тармажэнню працы дзяржаўных устаноў (арт. 3).

Але, паўтаруся, пераглядаць Закон пры гэтым Вярхоўным Савеце нельга, хоць новы закон і неабходны.

Новы закон (або дапрацаваны стары) павінен зацвердзіць і гарантаваць усебаковае стабільнае развіццё беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай і роўныя магчымасці для развіцця моў нацыянальных меншасцей. Размаўляць грамадзяне Беларусі могуць на любой мове – гэта ім гарантуе нашае заканадаўства. Але беларускую павінны ведаць усе, незалежна ад нацыянальнасці, веравызнання і сацыяльна-палітычнай арыентацыі. Ведаць родную мову і дбаць аб яе развіцці – ганаровы абавязак кожнага грамадзяніна нашай дзяржавы! Няхай жа гэта будзе замацавана ў нашым заканадаўстве! Будзе развівацца беларуская мова – будзе квітнець Беларуская дзяржава!

**Пётр КАСТЫРКА,**
**рускі,**
**студэнт МДЛУ.**

# І ЎСЁ Ж МЫ ДОЙДЗЕМ, ДОЙДЗЕМ МЫ ДА БЕЛАРУСІ!

Горка і балюча робіцца на душы, калі гарадская сяброўка з насмешкай гаворыць:

— Не понимаю, как ты можешь учить в школе все предметы на белорусском языке?!

Балюча, калі дарослы хлопец, які пабыў на дыскатэцы ў мясцовым клубе, кажа:

— Всё было классно, но зачем вам эта белорусская мова? Терпеть её не могу!

Аднойчы я стала сведкай размовы дзвюх маладых жанчын. Гаварылі пра дзяцей, сяброў, вядома ж, пра хлеб, які з кожным днём даражае, пра палітыку і, нарэшце, пра мову. І тут адна з іх і кажа:

— Я не хочу, чтобы мои дети учили биологию на белорусском языке.

— Прабач, калі яны вучацца ў англійскім класе, вывучаючы дзве замежныя мовы, дык чаму ім не вывучыць родную беларускую мову?

— Потому что языка такого нет, он искусственный.

— Ну, дык калі няма мовы — няма і народа?

— И народа нет, народ выродился...

Гэтыя словы перавярнулі ў мяне ўсё ўнутры. Мова — штучная, народ — вырадзіўся... А што будзе, калі кожны пачне так лічыць? Што будзе, калі мы станем не толькі рускамоўнымі, але і англамоўнымі? Што будзе далей? Што чакае нашу Беларусь? Але ўсё ж ёсць сапраўдныя патрыёты, сапраўдныя барацьбіты за волю і незалежнасць нашай Бацькаўшчыны.

І ўспамінаюцца словы Ніла Гілевіча, у якія вельмі хочацца верыць: «І ўсё ж мы дойдзем, дойдзем мы да Беларусі!»

**Марыя ЛАГОДЗІЧ,**
**вучаніца 10 класа**
**Крытышынскай СШ**
**Іванаўскага раёна.**

## З АФІЦЫЙНЫХ КРЫНІЦ

* * *

*Да 1994—95 навучальнага года для папаўнення бібліятэчных фондаў падручнікаў і замены тых, якія ўстарэлі па зместу і прыйшлі ў нягоднасць у выніку карыстання, выпускаецца выдавецтвамі Рэспублікі Беларусь 134 найменні навучальных кніг агульным тыражом 11,5 млн. экземпляраў. Палітыка ў навучальным кнігавыданні накіравана на рэалізацыю канцэпцыі адукацыі і выхавання, якая ўхвалена ўрадам у мінулым годзе. Цяпер ідзе планамерны працэс замены падручнікаў, якія выдаюцца выдавецтвам «Просвещение» Расіі, на ўласныя нацыянальныя.*

*З 134 найменняў, якія выпускаюцца беларускімі выдавецтвамі, да 1 верасня выдадзены 124 найменні. Падручнік па беларускай літаратуры для 10 класа Р.Шкрабы (выдавецтва «Мастацкая літаратура») паступіць у школы ў канцы верасня. Астатнія 9 падручнікаў выйдуць з друку ў І чвэрці навучальнага года.*

* * *

*У друку з'явіліся звесткі, атрыманыя БелаПАН ва Упраўленні выхаваўчай працы Міністэрства абароны, па якіх 85 працэнтаў ад агульнай колькасці прызваных на службу вясной і летам 1994 года складаюць грамадзяне беларускай нацыянальнасці, 8,5 працэнта — рускія, 3,53 — палякі, 1,6 — украінцы. Прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей у саставе маладога папаўнення — каля 1 працэнта, а ўсяго ва Узброеныя Сілы прызваны юнакі дзевяці нацыянальнасцей.*

*Штогод назіраецца тэндэнцыя росту колькасці прызыўнікоў, якія маюць сярэднюю адукацыю. Падчас мінулай прызыўной кампаніі яны склалі 12,5 працэнта ад агульнай колькасці. Вышэйшую адукацыю на сённяшні дзень маюць у войску ўсяго 1,5 працэнта маладых салдат ад агульнай колькасці прызваных. У выніку гэтага больш за 40 працэнтаў воінскіх часцей беларускага войска не атрымалі «дыпламаваных прызыўнікоў». 13 працэнтаў юнакоў трапілі ў войска ледзь ці не са школьнай парты. Амаль кожны другі прызыўнік не меў да службы працоўнага стажу. У прызыве, які скончыўся, 53 працэнты склалі выхадцы з рабочых, 32 — з сялян, 13 працэнтаў — са служачых.*

## РУПЛІЎЦЫ

РУПЛІЎЦЫ

*Беларускае згуртаванне вайскоўцаў — адна з адраджэнцкіх беларускіх арганізацый, што ўзніклі ў другой палове васьмідзесятых гадоў пад уплывам падзей як глабальнага значэння (развал Савецкага Саюза, пагроза грамадзянскай вайны), так і мясцовага: падзеі ў г.Менску на Маскоўскіх могілках 30 кастрычніка 1988 г., рэпрэсіўныя акцыі ўлад у адносінах да людзей, што паспрабавалі адрадзіць у грамадстве традыцыі і абрады беларусаў і інш.*

*«Брожение умов», што выклікала перабудова, дасягнула Савецкай Арміі, і найбольш дальнабачныя, дэмакратычна настроеныя вайскоўцы-беларусы пачалі думаць над тым, каб вярнуць Бацькаўшчыне свабоду, адрадзіць яе культуру і дзяржаўнасць. Тым больш, што прыкладаў хапала. Многія паняволеныя камуністычным рэжымам народы пачалі разыходзіцца, скажам так, па сваіх нацыянальных кватэрах. Ужо ў 1991 годзе рост беларускіх арганізацый у войску назіраўся па ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза, асабліва ў такіх вялікіх гарадах, як Масква, Цвер, Менск, Барысаў. Яны працавалі легальна і падпольна. Пра суполку, якая ўзнікла ў Казахстане (г.Прыазёрск), у свой час «Наша слова» пісала. Суполка працавала ў складзе філіі Таварыства беларускай мовы і выдавала газету «Рокаш». Узначальваў суполку падпалкоўнік Станіслаў Суднік. 20 жніўня 1994 г. у Менску была створана адзіная патрыятычная вайсковая арганізацыя (падзею прыспешыў путч ГКЧПістаў), якая мела на мэце кансалідацыю беларускіх вайсковых арганізацый у адзіны патрыятычны рух. Старшынёй тады быў абраны кандыдат навук падпалкоўнік Мікола Статкевіч. У звароце да вайскоўцаў ад 20 жніўня ўдзельнікі сустрэчы заклікалі не падпарадкоўвацца маскоўскім путчыстам.*

*Арганізацыя БЗВ была зарэгістравана ў снежні 1991 года як «непалітычны, грамадска-патрыятычны рух», асноўная мэта якога — «абарона незалежнасці, дэмакратыі, патрыятычнага выхавання ў грамадстве і войску, недапушчэнне выкарыстання войска супраць народа, спрыянне стварэнню беларускага войска».*

*Першапачатковай задачай БЗВ стала барацьба за стварэнне Беларускага войска на аснове тых злучэнняў Савецкай Арміі, што знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі. Праца вялася парламенцкім шляхам з дапамогай апазіцыі БНФ. Юрыдычна Беларускае войска было ўтворана вясной 1992 года. Як адзначаецца ў адным з дакументаў БЗВ, «своечасовы раздзел Савецкай Арміі, што адбыўся ў тым ліку і дзякуючы шырокай прапагандысцкай кампаніі, якую вяло БЗВ, дазволіў пазбегнуць «югаслаўскага варыянта», дзе адзіная армія паспрабавала сілай аднавіць адзінства дзяржавы і развязала крывавую грамадзянскую вайну».*

*Акцыя прыняцця прысягі на вернасць Беларусі актывістаў БЗВ адбылася 8 верасня 1992 г. у гадавіну бітвы пад Оршай. якая з таго часу традыцыйна адзначаецца дэмакратамі як Дзень беларускай вайсковай славы. Прыгледзьцеся да твараў на здымку і запамятайце іх. За сваю беларускасць, якую гэтыя людзі спавядаюць, за правядзенне патрыятычнага выхавання на прыкладзе продкаў і за іншыя падобныя «віны» яны зараз звольнены з войска. У сакавіку 1994 г. рашэннем Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь БЗВ было ліквідавана. Яго замяніў Патрыятычны рух «Беларускае згуртаванне вайскоўцаў» на чале з Арганізацыйнай радай.*

*Напрыканцы жніўня адбылося пасяджэнне Арганізацыйнай рады БЗВ. Наш карэспандэнт сустрэўся з яе сакратаром Сяргеем Чыставым.*

# БЕЛАРУСКАЕ ЗГУРТАВАННЕ ВАЙСКОЎЦАЎ — РУХ ПАТРЫЯТЫЧНЫ



*Плошча Незалежнасці 8 верасня 1992 г. Сябры Беларускага згуртавання вайскоўцаў прымаюць прысягу на вернасць Беларусі.* ***Фота У.КАРМІЛКІНА.***

**— Патлумачце, калі ласка, што ў вас сёння адбываецца?**

— Праходзіць чарговае пасяджэнне Арганізацыйнай рады, на якім прысутнічаюць упаўнаважаныя ад раённых суполак, так званых харугваў, усяго каля 40 дэлегатаў.

**— Мэта пасяджэння?**

— Вызначыць жыццё арганізацыі на бліжэйшы час да будучага пасяджэння рады.

**— Што сабой уяўляе зараз структура БЗВ і чым яна кіруецца ў сваёй дзейнасці?**

— На гэты момант БЗВ налічвае каля трох тысяч чалавек, якія ўваходзяць у раённыя суполкі. Іх кіраўнікі разам з кіраўніцтвам Згуртавання, абраным на другім з'ездзе, складаюць Арганізацыйную раду, якая збіраецца раз у два—тры месяцы. Папярэдняя адбылася яшчэ да выбараў Прэзідэнта Беларусі. У радзе працуе выканаўчы камітэт. Мы кіруемся статутам, зацверджаным на з'ездзе.

**— Ваш сённяшні статус?**

— Юрыдычна маем статус аргкамітэта.

**— Вы маглі б назваць пытанні, якія сёння абмяркоўваюцца Арганізацыйнай радай?**

— Першае пытанне традыцыйнае — абмеркаванне сітуацыі ў краіне і задачы БЗВ. З дакладам выступіў старшыня М.Статкевіч, адбыліся спрэчкі. Пасля перапынку будзе разгледжана пытанне аб удзеле сяброў арганізацыі ў святкаванні 480-х угодкаў гістарычнай бітвы пад Оршай. Святочныя імпрэзы мяркуем правесці ў Менску, Оршы, Віцебску, Бабруйску, Гомелі, Полацку, Наваполацку.

**— Вашы задачы на дадзеным этапе?**

— Калі канкрэтна, то зараз стаіць пытанне працягу патрыятычнага выхавання моладзі — гісторыка-асветніцкая, скажам так, работа. Вось і святкаванне гадавіны перамогі беларускага войска пад Оршай мы ўвязваем з гэтай задачай. Дарэчы, вам вядома, што з чатырнаццаці афіцэраў, якія прымалі прысягу ў форме на плошчы Незалежнасці ў дзевяноста другім годзе, намаганнямі былога міністра абароны дванаццаць звольнены з войска? Засталіся служыць два чалавекі. Таму мы ў прынцыпе лічым, што восьмае верасня павінна стаць традыцыйна народным святам.

**— Як ваш асабісты лёс перакрыжаваўся з лёсам БЗВ?**

— Неўзабаве пасля разгону жалобнага мітынгу «Дзяды» на Маскоўскіх могілках я з сябрамі, у той час навучэнцамі Менскай вышэйшай інжынернай зенітнай ракетнай вучэльні, стварыў патрыятычную групу «Вольнае згуртаванне вайскоўцаў». Мы займаліся асветніцкай працай сярод сваіх калег, а праз паўгода нас «выкрылі». Усе мы, пятнаццаць чалавек. пасля заканчэння вучэльні апынуліся за Уральскім хрыбтом. Мы з сябрам трапілі ў Чыту. Там я шмат разоў спрабаваў перавесціся ў Беларусь, але мне адмовілі. У прынцыпе, паколькі я не меў жадання служыць чужой краіне, я быў вымушаны падаць рапарт на звальненне. Зараз я старшы лейтэнант запасу.

**— Хацелася б даведацца, ці БЗВ праводзіць работу па абароне правоў чалавека, калі яны парушаюцца ў арміі? Вось свежы прыклад з «Народнай газеты». У артыкуле «Это не учебка, а душегубка» ўздымаецца пытанне «дзедаўшчыны» ў войску. Магчыма, гэта робіцца некім свядома, каб хлопцы не жадалі ісці служыць?**

— Складанае пытанне. На жаль, у нас цяпер ніякіх стасункаў з Міністэрствам абароны няма. Яшчэ зусім нядаўна — не ведаю як будзе зараз — за кантакты з БЗВ не тое што жаўнеры — афіцэры неслі жорсткае пакаранне. Так, напрыклад, нядаўна з войска быў звольнены падпалкоўнік Станіслаў Суднік. Падставай для звальнення было тое, што ён сустрэўся з падпалкоўнікам запасу старшынёй БЗВ Статкевічам. Яму інкрымінавалі «палітычную дзейнасць» і прымусілі да звальнення. Нядаўна быў звольнены з войска і падпалкоўнік Анатоль Крыварот. А ўсё таму, што ён мае пэўныя патрыятычныя погляды і перакананні. Як мы можам бараніць вайскоўцаў, калі не маем магчымасці нават адкрыта кантактаваць з людзьмі і калі людзі не могуць да нас звярнуцца па любому пытанню, бо за гэта іх чакае жорсткае пакаранне?

**— А спадару Судніку не паставілі ў віну выдадзены ім Слоўнік вайсковай тэрміналогіі?**

— Міністэрства абароны не дапусціла Слоўнік ва ўжытак. Мы планавалі падараваць слоўнік С.Судніка ўсім сілавым структурам, але калі Міністэрства ўнутраных спраў для Унутранага войска яго ўзяло і падзякавала, то Міністэрства абароны катэгарычна ад яго адмовілася, а ўзамен пачало распрацоўваць вайсковую тэрміналогію па такому прынцыпу: каб была падобная на расійскую. На жаль, некаторыя сябры ТБМ бралі ўдзел у складанні гэтага русіфікаванага слоўніка (ён змешчаны ў дапаможніку па беларускай мове), што зводзіць нашу вайсковую тэрміналогію да сапсаванай расійскай. Дарэчы, спадар Суднік склаў новы Слоўнік вайсковых тэрмінаў — ужо на сем тысяч слоў. Мы яго абавязкова выдадзім. Ведаю, што зараз рыхтуюцца тэксты вайсковых статутаў на расійскай мове. Не ведаю, як яны будуць праходзіць праз Вярхоўны Савет, бо статут — заканадаўчы акт, і разглядаць яго толькі на расійскай мове Вярхоўны Савет, мабыць, неправамоцны.

**— Які лёс БЗВ у будучым?**

— Мабыць, арганізацыя, якая найбольш праследуецца на Беларусі, — гэта наша. Адначасна з патрыятычных дэмакратычных арганізацый яна таксама адзіная — я іншых не ведаю, — што ўвесь час развіваецца, расце і мацнее. Напрыклад, у Гомельскай вобласці з дэмакратычных згуртаванняў яна самая моцная. Расце аўтарытэт, пашыраецца і кола задач. Наш рух ужо не чыста вайсковы рух, ён ператвараецца ў рух агульнанародны. Мы займаемся абаронай насельніцтва па ўсіх накірунках. Адзін з іх — барацьба са злачыннасцю. У складзе БЗВ зараз ствараюцца Дружыны рэгіянальнай аховы і бяспекі (ДРАБ) па барацьбе са злачыннасцю. Сябры Дружыны носяць чорную форму, шэрыя берэты, на рукаве шэўрон БЗВ — на тле дзяржаўных колераў крыж Ярылы. Яны выходзяць на вуліцы гарадоў з пасведчаннямі добраахвотных народных дружыннікаў на ахову грамадскага парадку. Ужо ёсць станоўчы вопыт, і мы будзем яго распаўсюджваць.

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

ЧЫТАЕМ КАЗКІ

Здзіслаў СІЦЬКО

# ПАДЧАРКІ НАШАЙ КУЛЬТУРЫ

(Працяг.)

*Як перачытаем усе «рускія» казкі, мы можам смела сцвярджаць, што паводле маляўнічасці і прыгажосці апавядання беларускія казкі не маюць сабе роўных.*

**С.САЎЧАНКА, украінскі літаратуразнавец.**

*Казкі пра жывёл шмат якія даследнікі лічаць перламі беларускага казачнага эпасу.*

**К.КАБАШНІКАЎ.**

*У казцы «Каза Дарота», невялікім шэдэўры нашай народнай вусна-паэтычнай творчасці, даволі просты сюжэт: дзед прыдбаў коз і пасылаў сваіх дачок пасвіць іх. Але козы кожны раз скардзіліся, што яны галодныя. Дзед жорстка пакараў кожную з нядбайных пастухоў: «Дзед узяў забіў дачку, пад печ падкінуў...»*

*У папярэдніх дзвюх публікацыях зроблена спроба даведацца, чаму менавіта пра казу складзена такая дзіўная казка, чаму так жорстка пакараны і незвычайна пахаваны людзі. Чаму, хто мог і меў права здзейсніць такое, — пытаемся мы ў сябе. Адказы, як уяўляецца, можна знайсці ў сівой даўніне, у звычаях і абрадах першабытных земляробаў Месапатаміі.*

## НЕБАЖАТЫ

Смерць, як можна пераканацца паводле ўяўленняў нашых прашчураў, не ўяўлялася нечым страшным, скончэннем існавання істоты, чалавека. А таму спыненне жыцця дзеля нейкай мэты — ахвяра — дазвалялася. Жыццё працягвалася ў іншай прасторы (як можна меркаваць хоць бы з слова небажаты, нябожчык — неба і жыць), у іншым месцы: у магіле (дамавіне). І калі хто-небудзь хацеў мець «радзіцеля», апекуна плённасці збажыны, плоднасці жывёл і чалавека, тады нябожчыка-продка (заступніка, апекуна і хадайніка перад багамі, што «на тым свеце») хавалі там, дзе і жылі, у будынку. Як вядома з месапатамскіх археалагічных раскопак, месца для «дамавіны» знаходзілася ў розных кутках жытла. У казцы «Каза Дарота» дзед не вагаючыся, не раздумваючы сваіх нябожчыкаў «пад печ падкінуў», відаць, добра ведаў, дзе трэба іх пахаваць. Дык усё ж, чаму «пад печ»?

## ПЕЧ

З нашых вясельных звычаяў, а таксама з іншых, пераважна сямейных, абрадаў вынікае: печ мае нейкую магічную моц, якую выкарыстоўваюць дзеля дабра сям'і. Можна ўявіць, што гэта звязана з функцыяй печы абагравацьжытло. У халодную пару здаўна людзі збіраліся родам, сям'ёй каля агню, вогнішча, агменю, печы. Печ да таго ж доўга захоўвае цяпло, ды, вабячы і старых і малых, нібы збліжала, ядналасям'ю. Але печ была і месцам, дзе кожны адчуваў сябе ў бяспецы. Такое меркаванне пацвярджаецца нат казкамі: герой — чалавек, баба Яга, мядзведзь — сядзіць, хаваецца на печы. У гарачай печы лячыліся: лазілі ў печ, парылі косці, ад чаго, відаць, і пайшло слова лазня.

Не варта было б зноў гаварыць пра роль печы ў прыгатаванні розных страў і падрыхтоўцы для захоўвання харчу наогул. Але трэба нагадаць пра тое, што ў печы дзеецца таямніца з таямніц: з цеста творыцца хлеб. Можна толькі ўявіць, як гэта ўражвала нашых прашчураў. У печы пякуць і абрадавы хлеб — каравай.

Ды парадокс: у міфалогіі розных народаў, у першую чаргу славянскіх, прынамсі, паводле грунтоўнага «Міфалагічнага слоўніка», печы адведзена сціплая роля — месца, дзе хаваюцца, туляцца, жывуць некаторыя істоты ніжэйшай міфалогіі, так званая «дробная нячыстая сіла», пераважна хатнік (дамавік).

Але зусім іншае ў беларусаў. У нашай міфалогіі, каб яна была распрацаваная, печ заняла б, як і ў побыце, галоўнае месца. Прынамсі такую выснову можна зрабіць ужо нават з сямейных, вясельных абрадаў. Словамі «печ, памажы» сваты прасілі блаславлення перад важнай і адказнай падзеяй у жыцці сям'і — сватаннем. Адышоўшы да печы, ра́дзіліся бацькі дзяўчыны, якую прыйшлі сватаць. Вядома ж, не да самой печы звярталіся па дапамогу і параду. Напэўна і не да хатніка (дамавіка, кутніка), які, паводле народнага ўяўлення, месціўся недзе тут, каля печы. Але «дробная нячыстая сіла» здатная толькі на дробныя хітрыкі, а для спрыяння сям'і, чалавеку, дзеля прыняцця важнага рашэння патрэбен быў хтосьці больш аўтарытэтны, магутны, з якім лічыліся б усявышнія багі. Дык хто ж той магутны, апякун, прыяцель? Адказ шукаем... у самой печы.

## ДЗЕД

Даўней у печах меўся слуп, які называўся дзед. Хаця вучоныя звязваюць яго з канструкцыяй печы, аднак яго месца і аздабленне разьбою сведчаць пра іншую функцыю і значэнне «дзеда». І, відаць, мы не памылімся, калі ўбачым яго з культам продкаў. Паводле аднолі нашай абрадавай песні на вясельную бяседу павінен з'явіцца з выраю і заняць сваё месца на печы дзед — Дзед, бог-продак, як яго назваў даследнік беларускай вясельнай абраднасці Мікалай Нікольскі. І ёсць варыянт вясельнай «стаўбавой» песні, у якім «скаваць навечна» маладых клічацца толькі адзін бог, «радзіцель». М.Нікольскі адзначае таксама, што на Барысаўшчыне існаваў вясельны абрад ускладання пірага на стоўп, што, паводле М.Нікольскага, з'яўляецца безумоўна ахвяраваннем. Такім прынашэннем ахвяры, дарэчы, магло быць і рытуальнае забойства, вядомае ў тыя часы, калі паўсюдна практыкавалася прынашэнне ў ахвяру людзей, пра што захаваліся згадкі ў казцы «Каза Дарота». Вырашаў жа ўсё Дзед.

Як бачым, шмат якія элементы сюжэта, героі казкі «Каза Дарота» сведчаць пра вельмі старажытнае паходжанне гэтага народнага твора. Яе ўзрост, асмелімся прыблізна яго вызначыць, раўняецца «ўзросту» згаданых у папярэдніх публікацыях археалагічных культур Месапатаміі.

І ў сувязі з гэтым варта задумацца яшчэ над адным аспектам народнай творчасці (як і творчасці ўвогуле) — маральнай паставай вычвора-казачніка. Як трэба было шанаваць «першааўтара» казкі, каб так дакладна перадаваць на працягу тысячагоддзяў першасны тэкст казкі, да таго ж тэкст, які не надта стасуецца з агульналюдскай мараллю апошніх дзвюх тысяч гадоў — эпохі хрысціянства. Здавалася б, варта казачніку замяніць забойства, прыкладам, пакараннем бізунамі. Атрымалася б усё гладка і павучальна: нядбалыя пакараны адпаведна іх віне. Ды не! Таму і напрошваецца адна выснова: казачнікі на працягу жыцця сама меней ста пакаленняў (калі яны жылі па 60 гадоў) сумленна перадавалі нязменную праўду жыцця. Іх высокая культура і свядомасць нашмат пераўвышалі нашую культуру, якая, на жаль, не вызначаецца асаблівай павагай да вымаўленага ці напісанага іншым чалавекам слова. І як тут не паверыць, што першых нашых вычвораў выхоўвала і гартавала старажытная культура Месапатаміі, якая была калыскай культуры старажытнага Шумера. А тая шчодрай рукой бога плённасці і плоднасці закінула ў шмат якія куткі Азіі, Афрыкі і Еўропы насенне, якое пад апекай сціплай казы дало свой плён і на нашай ніве.

(Працяг будзе.)

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў ПЫТАННЯХ І АДКАЗАХ

## *Як Вільня сталася жамойцкім горадам?*

У міжваенным перыядзе (1921—1939 гады) Вільня была палітычным і культурным цэнтрам Заходняй Беларусі, яе неафіцыйнай сталіцай. Тут знаходзіліся сядзібы ўсіх беларускіх палітычных і грамадскіх арганізацый, працавалі беларуская гімназія, беларускі музей, шэраг навуковых і культурна-асветных устаноў, рэдакцыі газет і часопісаў. Праўда, становішча ўвесь час змянялася да горшага, і напярэдадні Другой сусветнай вайны колькасць іх у выніку шавіністычнае палітыкі польскіх уладаў значна зменшылася.

Пасля далучэння Заходняй Беларусі да БССР беларускае грамадзянства Вільні было перакананае, што горад будзе нарэшце ў складзе беларускае рэспублікі. Пачала нават выходзіць, як у іншых абласных цэнтрах, газета «Віленская праўда» на беларускай мове. Але сталася іначай.

10 кастрычніка 1939 года Сталін перадаў Вільню з Віленскім краем (гэта быў абшар з насельніцтвам 457 тысяч чалавек) Летуве. Нарком замежных спраў СССР Молатаў адзначаў тады: «Мы ведаем, што бальшыня насельніцтва гэтага абшару не летувіская. Але гістарычнае мінулае ды імкненні летувіскага народа цесна звязаныя з горадам Вільня, і ўрад СССР уважаў за неабходнае шанаваць гэтыя маральныя фактары». Зразумела, што такое «дабрадзейства» мусіла быць аплачанае. Напачатку Масква атрымала права на размяшчэнне ў Летуве вайсковых базаў, а неўзабаве, як вядома, і ўвогуле «праглынула» яе.

Пасля далучэння Віленшчыны да Летувы жамойцкае насельніцтва горада стала імкліва ўзрастаць за кошт перасяленцаў з этнічных жамойцкіх земляў. Адбывалася гэта і дзякуючы прытоку рабочых рук у прамысловасць, і ў выніку напліву масы чынавенства, паліцыі, войска.

Становішча беларусаў тут сталася яшчэ горшае, чым пры палях. Летувіская прапаганда сцвярджала, што яны не беларусы, а «страчаныя летувісы», што ім трэба толькі змяніць прозвішча, дадаўшы «-ас», «-іс» або «-ус», ды навучыцца жамойцкай мове. Беспрацоўе сярод беларусаў павялічылася, яны дыскрымінаваліся пры ўладкаванні на дзяржаўную службу. Тыя ж з іх, хто нарадзіўся па-за Віленшчынай, увогуле не маглі атрымаць летувіскае грамадзянства.

У часе вайны ініцыятарамі карных захадаў з боку немцаў супраць нацыянальна свядомых беларусаў нярэдка былі польскія шавіністы. Гэта разам з перадваеннымі сталінскімі рэпрэсіямі спрычынілася да катастрафічнага змяншэння колькасці беларускай інтэлігенцыі ў Вільні. І тым не менш у вайну тут яшчэ працавалі беларуская гімназія, настаўніцкая семінарыя, пачатковыя школы, выдавалася газета.

Паводле «Каляндарных нататак» Адама Станкевіча, пры канцы вайны летувісы панічна баяліся беларусаў, справядліва мяркуючы, што іхны актыўны калабарацыянізм, з аднаго боку, і шырокі супраціў беларусаў фашысцкай акупацыі і іх каласальныя ахвяры — з другога, могуць даць падставу для паваеннага перагляду лёсу Вільні. Але Сталін не палічыў патрэбным вяртацца да гэтага пытання.

Канчатковае знішчэнне беларускага культурнага асяродку ў Вільні адбылося адразу пасля вайны. Летувіскі ўрад у асобе міністра асветы Ю.Жугжды не дазволіў адчыніць тут ніводнай беларускай школы, чаго дамагаліся А.Станкевіч ды іншыя беларускія дзеячы. Былі ліквідаваныя беларуская гімназія, славуты музей імя І.Луцкевіча. Усё гэта адбывалася адначасна з новай хваляй рэпрэсій супраць нашай інтэлігенцыі.

Па ўзгадненні з Масквой і Варшавай замест беларускіх школаў пачалі насаджаць польскія і расейскія, было наладжанае выданне газеты «Чырвоны штандар» на польскай мове. Як і раней, польскія ксяндзы стараліся ўбіць у галовы беларусам-каталікам, што ўзапраўды яны палякі. У гэтым былі зацікаўленыя і летувіскія ўлады. Яны, відаць, не бачылі іншага шляху дэнацыяналізацыі беларусаў Віленшчыны, бо разумелі, што пераявярнуць іх на жамойтаў досыць праблематычна.

Тым не менш, маючы на мэце змяніць дэмаграфічную сітуацыю на сваю карысць, яны адначасна імкнуліся накінуць на беларусаў хоць бы сваю вонкавую абалонку: дзе толькі магчыма, запісвалі іх жамойтамі, перакручвалі імёны і прозвішчы на свой капыл (*Міцкявічус* замест *Міцкевіч*, *Васіляўскас* замест *Васілеўскі*, *Астраўскайтэ* замест *Астроўская*, *Жвірбліс* замест *Верабей* і г.д.).

Праводзілася татальная летувізацыя тапанімікі Вільні і Віленскага краю (*Меднікі* сталі *Мядзінінкай*, *Свянцяны — Швянчоніс*, *Салечнікі — Шальчынінкай*, *Вострая Брама — Аўшрас* і г.д.). У выніку тут не засталося амаль ніводнай беларускай назвы.

Такім чынам Вільня набыла нязвыклае для сябе аблічча, упершыню за сваю шматсотгадовую гісторыю стаўшы жамойцкім горадам.

**Эдвард ЗАЙКОЎСКІ.**

*СТВОРЫМ ГІМН БЕЛАРУСІ РАЗАМ*

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Сімвал свабоды — Сцяг Беларусі,**
**4. Бела-чырвона-белы наш Сцяг.**
**5. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Наша адданасць — Вольнай Радзіме.**
**8. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**
**9. Праца народа моц і свабоду —**
**10. Годнасць гартуе з году ў год...**
**11. Веліч Радзімы — мужнасць народа,**
**12. Люд Беларусі — слаўны народ.**
**13. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**16. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**
**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны,**
**18. Рэкі павольныя, светлыя тут.**
**19. Мірна гамоняць бярозы ды сосны...**
**20. Цешце, нашчадкі, родны наш кут!**
**21. Хай жа ніколі ён не загіне!**
**22. Бог захавае Белую Русь.**
**23. Наша адданасць — мілай Радзіме.**
**24. Хай жа заўсёды жыве Беларусь!**

Ад рэдакцыі: Па просьбе чытачоў паўтараем тэкст верша У. Жыгалкі, які ён прапанаваў дапрацаваць грамадою, каб такім чынам стварыць Гімн Беларусі. Радкі вырашана пранумараваць дзеля зручнасці спасылкі на іх у далейшым.

Напамінаем: кожны, хто бярэ ўдзел у дапрацоўцы тэксту, можа ў межах агульнай задумы верша дасылаць уласныя варыянты радкоў ці асобных слоў, а таксама падтрымліваць альбо крытыкаваць заўвагі і варыянты іншых удзельнікаў сумеснай працы над тэкстам. Публікуючы іх, мы ўстрымліваемся ад рэдакцыйных каментараў. Чакаем вашых лістоў, шаноўныя чытачы!

*Паважаная рэдакцыя «Нашага слова»!*

*Прачытаў заклік-прапанову стварыць Гімн Беларусі разам. Згодзен. Вось мае ўдакладненні. Пісаць:*

**1. Мы, беларусы, вольнымі будзем (вольныя людзі).**
**2. Роўнасць, братэрства, свабода — наш шлях.**
**3. Продкаў вялікіх сваіх не забудзем.**
**4. Бел-чырвон-белы спрадвеку наш Сцяг!**
**5. Няхай ён лунае заўжды, як і сёння.**
**6. На вернасць Айчыне мы скажам: «Клянусь!»**
**7. З намі рашучасць, над намі «Пагоня».**
**8. Гучыць наша слова! Жыве Беларусь!**

*І яшчэ 12 радок запісаць у такім выглядзе:*

**12. Люд Беларусі — з'яднаны народ.**

*Хацелася б, каб ён быў такім.*

З павагай **Мікола ХАШЧУК.**
г.Менск.

* * *

*Вы прапануеце дасылаць лісты-водгукі на прапанову У.Жыгалкі. Калі б нават словы У.Жыгалкі былі самымі цудоўнымі, чаго нельга сказаць, бо ёсць Беларусь, а не Белая Русь, як у яго, усё роўна дарослая частка насельніцтва будзе пры старой музыцы чуць: «Братнюю Русь», партыю (КПСС), Леніна і інш. Між іншым, хопіць нам СС «Белая Русь».*

*Нехта недурны сказаў: «В старые меха нового вина не наливают».*

*Будзьце здаровы.*

Ваш чытач **К.МІХАЙЛАЎ.**
г.Орша.

* * *

*Шаноўная рэдакцыя, прапаноўваючы тэкст Гімна Беларусі, спадзяюся на Вашу дабразычлівасць. Хацеў бы падкрэсліць, што існуе трыяда дзяржаўнай сімволікі: герб, сцяг, гімн. І таму словы тэкста не павінны пералічваць яе.*

*Падаецца праблематычным і тое, што з некалькіх вершаў можна стварыць адзіны нацыянальны гімн.*

*Што датычыць музыкі, то яе, мяркую, трэба шукаць у 16—18 стагоддзях, нашым Адраджэнні.*

З павагай **Валеры Тарыкаў**.
г.Глыбокае.

* * *

*Шаноўнае спадарства, скажу шчыра: мне не спадабалася ідэя стварыць Дзяржаўны Гімн талакою.*

*Спроба ўліць новае віно ў старыя мяшкі не арыгінальная і была раскрытыкавана яшчэ Ісусам.*

*Вось і тут мне да скону будзе чуцца ў гімне «Гімн партыі камуністаў». «Партыі слава! Слава Радзіме!» Партыі найперш, пасьля ўжо Радзіме.*

*Але калі ёсьць ідэя новых словаў да старой музыкі — гэта, як новая Пагоня над старым гербам, то прапаную не выдумляць ровар, а ўзяць шырока вядомыя вершы на тую ж камуністычную музыку, а менавіта, вершы Сяржука Сокалава-Воюша. Вось іх пачатак:*

**— Дзе Беларусы, што з братняю Руссю**
**разам шукалі к шчасцю дарог?**
**— Нехта забіты, нехта забыты,**
**рэшта загінула па лагярох!**
**Іх ашукала Леніна імя,**
**партыя ўпарта вяла іх на звод.**
**Славу сьпяваў паднявольнай Радзіме**
**Доўбняй марксізму прыбіты народ...**

*І г.д.*

*Проста, гранічна праўдзіва і ніякіх ілюзій.*

*Трэба ў нашым «Нашым слове» сказаць шчыра: цяперашняй кіруючай камандзе Дзяржаўны ГІМН не патрэбен, бо будаваць дзяржаву для беларусаў яна не збіраецца.*

*Жыве Беларусь!*

**Мікола БУСЕЛ.**
в. Дуброва.

* * *

*Шаноўная рэдакцыя! Адгукваюся на Вашу прапанову прыняць удзел у дапрацоўцы тэксту Уладыслава Жыгалкі, які ён прапануе для Гімна Беларусі. У сваім тэксце я імкнуўся па магчымасці намінатыўным формам з верша У.Жыгалкі надаць развітую. Аддаю свой варыянт, заснаваны на тэксце У.Жыгалкі.*

## ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**1. Мы, беларусы, — вольныя людзі!**
**2. Вольным заўсёды будзе наш шлях.**
**3. Вечна свабодным над светам будзе**
**4. Бела-чырвона-белы наш сцяг.**

**5. Край наш ніколі ў агні не загіне.**
**6. Бог захавае Белую Русь.**
**7. Клятву даём мы на вернасць Радзіме.**
**8. Век будзеш вольнай жыць, Беларусь!**

**9. Шчасце народа — еднасць, свабода —**
**10. Будзе надзейна ў мужных руках.**
**11. Веліч Радзімы — справа народа —**
**12. Хай пракладае ў сонца свой шлях.**

**13. Край наш ніколі ў бядзе не загіне.**
**14. Бог захавае Белую Русь.**
**15. Клятву даём мы на вернасць Радзіме!**
**16. Век будзеш вольнай жыць, Беларусь!**

**17. Край наш багаты, шчодры, дзівосны.**
**18. Мужны і шчыры ў ім жыве люд.**
**19. Славу пяюць тут бярозы ды сосны:**
**20. Любім спрадвеку мы родны кут!**

**21. Край наш ніколі нідзе не загіне.**
**22. Бог захавае Белую Русь,**
**23. Клятву даём мы на вернасць Радзіме:**
**24. Век будзеш вольнай жыць, Беларусь!**

З павагай **Мікола ГРЫМАН.**

*ПА ГІСТАРЫЧНЫХ МЯСЦІНАХ*



**На здымку:** Удзельнікі вандроўкі на Крапівенскім полі. **Фота У.ПАНАДЫ.**

# НА ПАКЛОН КРЫЖУ НА КРАПІВЕНСКІМ ПОЛІ

Нарэшце дачакаліся. Два стагоддзі адсунутая спадкаемцамі Маскоўскай дзяржавы на пазіцыі другараднай, хаця, дзякуючы чыгуначнаму вузлу, не самай глухой правінцыі, славутая Аршаншчына абвясціла пра сябе першым прэзідэнтам суверэннай Беларусі. Але, акрамя яго, яна яшчэ і радзіма класіка беларускай савецкай гісторыі Абэцэдарскага, класіка беларускай гістарычнай літаратуры Караткевіча, аднаго з пачынальнікаў беларускага рабочага руху Разумава, беларускага алімпійца Жалязоўскага і ўвогуле з'яўляецца краем класікаў, пачынальнікаў і энтузіястаў.

Аршанская вандроўка 1994 года, удзельнікі якой прайшлі шляхам войск гетмана Канстанціна Астрожскага ў 1514 годзе, стала адным з новых мясцовых пачынанняў.

Удзельнікамі першай вандроўкі, як і кожнага пачынання, не забяспечанага рэкламай, сталі вялікія аптымісты і энтузіясты. Таму, каб іншых не было, спрыяла і слотнае надвор'е.

Вандроўка стартавала 19 жніўня з Аршанскага замчышча — з месца, адкуль рушыў у дарогу славуты гетман-пераможца разам са сваім войскам 480 гадоў таму. Спачатку ішлі правым берагам Дняпра, потым праз мост перайшлі на левы (войска Астрожскага перапраўлялася з дапамогай першай у Беларусі ваенна-інжынернай прылады — пантона, збудаванага з бочак італьянскім інжынерам). І тут, трохі вышэй ручая Арэхаўкі (у 18—19 стагоддзях на гэтым месцы жылі куцеінскія пустэльнікі) быў разбіты першы лагер. Камяністае рэчышча ручая, яго берагі, парослыя хмызняком, — гэты пейзаж, пэўна, захаваўся без змен апошнія пяць стагоддзяў. На жаль, нагадвала пра сучаснасць труба калектара, праз якую ў чыстую ваду Дняпра кіламетрам ніжэй траплялі сцёкі свінафермы.

Наступным ранкам да вандроўнікаў далучыўся яшчэ адзін аптыміст, які адшукаў іх, прыехаўшы ажно з Менска.

Гэтага дня шлях пралёг да вёскі Пашына, ля якой, паводле схемы з «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», перапраўляліся на другі бок Дняпра асноўныя атрады Астрожскага. Напамінам аб тых падзеях былі камяні, што тырчалі з вады — рэшткі Аршанскага парога, узарванага ў 20-я гады. Вандроўка прайшла праз месца, на якім калісьці размяшчаўся левы фланг расійскага войска. Мы адчулі: незайздроснае становішча было ў беларускіх вояў, якія калісьці беглі ўгару насустрач маскоўскім палкам, што займалі ўсе навакольныя высоты.

Ад Пашына вандроўнікі рушылі дарогай палкоў Радзівіла і Астрожскага. Ля вёскі Шугайлава (на схеме ў энцыклапедыі — Пугайлава) 480 гадоў таму былі разгромлены ворагі. Мы ішлі шляхам, якім гналі іх абаронцы Вялікага Княства да таго, пакуль не скінулі ў рэчку Крапіўну. Паміж Шугайлавам і Крапіўнай поле рассякае глыбокая лагчына, па дне якой цячэ ручай, у які ператварылася колішняя безыменная рэчка. Тады, у 16 стагоддзі, ён утвараў значную перашкоду для конніцы, ды і нам пешкі атрымалася перайсці яго са складанасцямі. На беразе ручая побач са шматлікімі крыніцамі адбыўся другі начлег.

Нядзельная раніца сустрэла дажджом, які скончыўся амаль апоўдні і меў фатальнае значэнне для тых удзельнікаў вандроўкі, якія асобнай групай прыехалі далучыцца да яе з Магілёва. Яны ўтрох прыбылі ў Оршу ў суботу 20 жніўня яшчэ да тэрміну абвешчанай сустрэчы ўдзельнікаў на вакзале і самастойна, у пешым шыхту накіраваліся да месца бітвы.

І вось, лагер у яры быў зняты. За нейкую гадзіну мы дайшлі да вытоку Крапіўны. Рэчка значна абмялела.

Перайшоўшы рэчку, апынуліся на Крапівенскім полі, ля памятнага знака, пастаўленага ўдзельнікамі фэсту ў памяць бітвы 1514 года на тым самым полі, дзе калісьці быў канчаткова разгромлены агрэсар і якое дало назву святу беларускай бардаўскай песні, што ўпершыню праводзілася тут чатыры гады таму. Ля знака ляжалі палявыя кветкі і запіска магілёўцаў, якія тут «былі, мёрзлі, моклі і спявалі» яшчэ гадзіну таму. Двое з нас пабеглі ў бок шашы на Оршу, спадзеючыся дагнаць «клан Мухіных», але на аўтобусным прыпынку заспелі толькі бабульку, якая нікога не бачыла...

Крапівенскае поле стала крайнім усходнім пунктам маршруту. Далей наш шлях ляжаў да крыжа ў гонар Аршанскай бітвы, што стаіць ля шашы Орша—Дуброўна. Тут нас чакала яшчэ адна запіска магілёўцаў — пра тое, як яны, прамоклыя да апошняй ніткі, але жывыя і вясёлыя, стаялі тут уранні. На крыжы, як і ля памятнага знака, ляжалі свежыя палявыя кветкі.

Далей наша невялікая група па танюткім бервяне — класічнай турысцкай пераправе — вярнулася на левы бераг Крапіўны і завітала да царквы-мураўёўкі, пабудаванай на месцы колішняй драўлянай, узведзенай як успамін аб перамозе пад Оршай. Блізіўся вечар. Наперадзе быў яшчэ адзін начлег і вяртанне дадому.

Уранні 22 жніўня скончылася першая Аршанская вандроўка, якая, магчыма, некалі стане такой жа традыцыйнай, як і бардаўскі фэст «Аршанская бітва», як і святкаванне намі даты 8 верасня як дня беларускай вайсковай славы.

**А. М.**

# ПЕРАД АДЛЁТАМ



## ІСМЕХ І ГРЭХ

БУЛАТАВІЧ ВІБ У

### ПАСВЕДЧАННЕ БЕДНАСЦІ

У маленстве мяне вучылі, што мы бедныя таму, што суседзі багатыя.

Лічыць да мільёна ці мільярда не вучылі. Бо, казалі, не спатрэбіцца.

Падлеткам, ідучы па вуліцы, я крычаў: «Далоў багатых!»

Цяпер мне пяцьдзесят гадоў. А суседзі ў мяне зноў багатыя. І ўмеюць лічыць да мільёна, да мільярда...

Я, сустракаючы іхніх служанак, пытаўся, адкуль гэткае багацце, дзе можна такія грошы браць. Служанкі адказвалі: «З канвертаў вымаць».

Не верачы, я цікаваў скрозь платы, можа, яны выкопваюць з зямлі мяшкі залатовак. Ды нічога не заўважыў. А суседзі ж і вампірамі не былі. Спалі спакойна.

У рэшце рэшт давялося стукацца да суседа ў вароты. Ён выйшаў. Я пытаюся:

— Адкуль у вас гэткае багацце?

— Пачакайце хвілінку, — кажа ён, адыходзіць і вяртаецца з даведкай Камісіі па праверцы законнасці даходаў, якая пацвярджае, што мой сусед узбагаціўся апраўдана.

Тады я схадзіў у Камісію высветліць, як выдаюцца такія даведкі.

Там мне растлумачылі: нармальна, калі нехта мае дом на моры і дом на мацерыку; вось калі дом у паветры — тады ўжо ненармальна.

Я вярнуўся дахаты і ўцяміў, што адстаю ад сучаснасці. Але ж і багацеі зараз ужо не тыя, якія некалі былі.

Колішнія ўзбагачаліся, нікога не пытаючыся.

Цяперашнія спачатку ўдакладняюць, апраўдана гэта ці не, і толькі потым узбагачаюцца.

Калісьці багацеяў і беднякоў адрознівалі погляды на свет.

Цяпер у багацеяў і ў беднякоў погляды на свет аднолькавыя, розныя толькі погляды на двор.

Ранейшыя багацеі былі агідныя скруралупамі. Новыя ж сталі сімпатычнымі ўласнікамі апраўданай маёмасці.

Калі да лозунгаў, дык я і зараз мог бы крычаць: «Далоў багатых... неапраўданых!»

Прыкінуўшы ўсё, я аднак пайшоў яшчэ раз у Камісію. Па даведку, што я апраўдана бедны. А там усе дужа здзівіліся. Такіх пасведчанняў дагэтуль ніхто не прасіў.

А я даве́ў: калі ёсць апраўданне багацтву, няхай будзе апраўданне і беднасці.

*Пераклаў з сербскахарвацкай мовы Іван ЧАРОТА.*

## ПАРОДЫІ

Г.ЮРЧАНКА.

### ДАСПЕЛАСЦЬ НОГ

*Праб'юць у змрок дарогу*
*Слупы святла — абрысы спелых ног.*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Пад час такі прымрояцца пачвары*
*Ці што яшчэ з праявау сатаны.*

***Уладзімір МАРОЗ.***

Над Загор'ем злавесныя хмары.
Над Заверш'ем аскепкі маны.
Каля Выгані посвіст пачвары.
А скрай Грыўды — сляды сатаны.

Як пазбыцца нядрэмнай трывогі?
Вунь ён, промень, што к шчасцю вядзе!
Гэта бліснулі спелыя ногі
На адчайна-цнатлівай вярсце.

І вянцуюцца рукі прыкметна,
І вызвоньвае кроў перамог.
Я праскочу кусцё апраметнай
Перад вабнай даспеласцю ног.

Адплываюць бязладныя енкі,
Мілавее аброць пекнаты.
І праз Шчару забавы-каленкі
Пракладаюць суладдзя масты.

### КАР-Р-Р!..

*Дом на два крылы,*
*Светла-заімглёны.*
*У адным арлы,*
*У другім вароны.*
*. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .*
*Раскрычаліся вароны,*
*Расшумеліся чаму?*

***Алесь ЖЫГУНОЎ.***

Чуў я галак шчыры цокат,
Палкі гоман вераб'ёў,
Чуў бусла пяшчотны клёкат,
Светлы пошчак салаўёў.

Перастукі дзятла ў соснах,
У гушчэчы стогн крука,
Шчэбет ластавак дзівосных,
Трэлі цуда-жаўрука.

Ды праменюся душою,
Калі чуецца з-пад хмар
І даверна-трапяткое,
І вясёлкавае кар-р-р!..

## ШКОЛА САМААБАРОНЫ

**М.КАЧАР,**
*інструктар рукапашнага бою.*

# ШТО ТАКОЕ «РУССКИЙ СТИЛЬ» РУКАПАШНАГА БОЮ?

*(3-я частка)*

Ва ўсім свеце людзі шукалі і працягваюць шукаць універсальныя прынцыпы бою ў любых варунках з любым праціўнікам. І паўсюль прыкладныя сістэмы даюць байцам найбольшую свабоду самавыяўлення, ні ў якім выпадку не заганяючы іх у цвёрдыя рамкі надуманых абмежаванняў. Ва ўсіх баявых сістэмах прыярытэт заўсёды надаецца прастаце перад складанасцю, эфектыўнасці перад эфектнасцю. Далей: калі падкрэсліваецца адрозненне «русского стиля» ад іншых адзінаборстваў, яго непадобнасць і унікальнасць, часта гаворыцца аб антрапалагічным фактары. Быццам не можа еўрапеец з-за сваёй фігуры, складу цела стаць добрым каратыстам. Але ж, прабачце, дзе карэнныя адрозненні? Што ў славян, што ў азіятаў па чатыры канечнасці, па адной галаве. А целасклад? Любому з нас можа сустрэцца чалавек, побач з якім адчуеш сябе пігмеем. Роўна непісьменныя і спробы супрацьстаўлення славянскіх сістэм азіяцкім паводле прынцыпу: «Попробуйте провести высокий удар ногой, стоя босиком на льду». Чым жа падобная прапанова лепш адваротнай: «Паспрабуйце ўдарыць нагой, хаця б у пах, стоячы на пляжы, па калена ў пяску, да таго ж у валёнках». Увогуле, усім тым, хто верыць у існаванне прынцыповых адрозненняў паміж еўрапейскай і азіяцкай тэхнікай рэальнага бою, я раю ўважліва вывучыць кнігу аднаго кітайца, выдадзеную пару гадоў таму ў Маскве (Цзы Цзяньчэн «Техника самообороны Дуаньда»). У ёй 385 старонак, але ж нідзе вы не знойдзеце «стелющихся по земле стоек» альбо «высоких ударов ногой». Ёсць шэраг адносна нескладаных базавых тэхнік, выкарыстанне якіх паказана ў розных сітуацыях, агульнай лічбай 84. Можа выключнасць «русского стиля» базуецца на методыцы заняткаў? А.Рацюнскіх гаворыць: «Занятия в спортзале являются начальным подготовительным этапом в овладении русским стилем... Их сменяют затем занятия в опасных, специально смоделированных ситуациях, вырабатывающих умение преодолевать боль, страх и усталость. Ведение боя в ограниченном пространстве, на краю обрыва или крыши здания, марш-броски по пересечённой местности с преодолением ловушек, использование в тренировках настоящего оружия, например ножа...» На гэта адкажу так: ва ўсім свеце, ва ўсіх спецназах байцоў навучаюць так і толькі так. А тэхніку пры гэтым выкарыстоўваюць, у большасці, каратэ, дзю-дзюцу і таму падобныя. Дзіўным для мяне з'яўляецца сцвярджэнне, што заняткі спортам перашкаджаюць рукапашнаму бою. Сусветная практыка сведчыць аб адваротным: чым больш разнастайная і інтэнсіўная фізічная падрыхтоўка, тым лепш. Асабліва добрыя такія віды спорту, як барацьба, бокс, гімнастыка, акрабатыка, рэгбі, амерыканскі футбол і т.п. Можна не сумнявацца, што майстар спорту ў боксе ці ў вольнай барацьбе ў вулічнай сутычцы акажацца на галаву мацнейшы, чым звычайны хлапчук, які нічым раней не займаўся, але прайшоў 4—5-ці гадовы курс у Кадашнікава. І зусім другая справа — той жа майстар спорту ў боксе, прайшоўшы тую ж самую падрыхтоўку.

Усе прыёмы ў «русском стиле» тлумачацца праз законы механікі — сістэму рычагоў, восяў кручэння, вектараў сіл. Але ж дазвольце нагадаць. Тлумачэнне прыёмаў самба і дзюдо праз законы біямеханікі асабіста я пачуў яшчэ ў 1974 годзе, калі аб каратэ ў нас практычна нічога не ведалі, а аб «русском стиле» не было і размовы. Напрыклад: «два матэрыяльныя пункты дзейнічаюць адзін на аднаго з сіламі аднолькавымі паводле абсалютнага вызначэння і накіраваны ў супрацьлеглыя бакі ўздоўж лініі, што злучае гэтыя кропкі». Гэты закон даказвае: у барацьбе важную ролю адыграе дынамічна выкарыстаная сіла. Калі атакаваць праціўніка намаганнем у N адзінак, ён павінен адказаць такой жа сілай, каб не згубіць раўнавагі. Калі раптам спыніць атаку і пацягнуць яго наперад з поўнай сілай, то да гэтай сілы прыложыцца N адзінак сілы праціўніка, — так нас вучылі. Законы руху, складанне сіл, пара сіл, момант сіл, імпульс сілы. Стоячы і лежачы, праводзячы кідкі і балявыя прыёмы. І канешне, каб кінуць праціўніка, трэба працаваць менавіта ў трох плоскасцях.

Усё згаданае дае мне падставу не падзяляць захапленняў іншых унікальнасцю «русского стиля». Хутчэй прыходзіць на розум думка аб тым, што новае — гэта добра забытае старое. Калі называць рэчы сваімі імёнамі, то «русского» ў школах Кадашнікава—Рацюнскіх—Лаўрова значна менш, чым у «бузе» ці ў «горыцы». Яны з'яўляюцца, так сказаць, баявым стылем, а не «русским», кітайскім ці японскім. На гэтым узроўні абсалютна не мае значэння, як называецца стойка: «пятa», «рамка» ці «кокуцу-дачы», а адзенне — «палатно», «камуфляж» ці «каратэгі». Справа не ў назве, а ў сутнасці. Называецца прыём «катэт — гіпатэнуза» ці «котэгаешы» — неістотна, толькі важна, ці застанецца пасля яго праціўнік ляжаць на зямлі ці не. Нагадаю зноў: стылі адрозніваюцца не нацыянальнасцю стваральнікаў не тым, на якой мове апісваецца іх тэхніка. Сутнасць зусім у іншым — эфектыўнасці іх падчас вырашэння канкрэтнай задачы. Таму можна вылучыць «вайсковы стыль рукапашнага бою» (бой на знішчэнне, не абмежаваны аніякімі правіламі), «паліцэйскі стыль» (шэраг абмежаванняў, выкліканых патрабаваннямі не забіваць, а затрымліваць злачынцаў), «спартыўны стыль» (маса абмежаванняў, каб, барані Божа, не зрабіць праціўніка інвалідам). І нацыянальная асаблівасці выяўляюцца ўжо знутры стыляў, на ўзроўні школ. Напрыклад, сапраўдную расейскую школу бокса прадстаўляў некалі Валерый Папенчанка, беларускую — цяпер — Вячаслаў Ясноўскі. У той жа час як Тэафіла Стывенсан заўсёды ярка дэманстраваў кубінскую. Існуе беларуская школа кік-боксінга, звязаная з імёнамі У.Задзірына, У.Смірнова, Д.Сцяпанава, і маскоўская, якая ганарыцца ўласнымі імёнамі.

На заканчэнне скажу: эфектыўнасць баявой тэхнікі абавязкова (каб яна развівалася, а не была «ляльчай») трэба дэманстраваць не ў паказальных «шоу», а на спаборніцтвах. Вось тады і можна будзе выносіць канчатковы прысуд вартасцям любога стылю.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп — адказны сакратар.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 38

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 5982 паасобнікі
Падпісана ў друк 19.09.1994 г.
у 15 гадзін.